Ба 15294

Пралетары ўсіх краін, злучайцеся!



2-ая СЭСІЯ ЦЭНТРАЛЬНАГА ВЫКАНАЎЧАГА КАМІТЭТУ БССР IX СКЛІКАНЬНЯ

# ПАСТАНОВЫ






ВЫДАНЬНЕ ЦВК БССР
МЕНСК — 1930

Бa 15294

Пралетары ўсіх краін, злучайцеся!

2-ая СЭСІЯ ЦЭНТРАЛЬНАГА ВЫКАНАЎЧАГА КАМІТЭТУ БССР IX СКЛІКАНЬНЯ

БА 15294ф

Інв. №1953 г.

Бел. аддзел 1934 г.

# ПАСТАНОВЫ




ВЫДАНЬНЕ ЦВК БССР
МЕНСК — 1930

I.

## Па дакладу Савету Народных Камісараў пра кантрольныя лічбы народнай гаспадаркі і культуры БССР на 1929-30 год.

Заслухаўшы даклад Старшыні Савету Народных Камісараў тав. Галадзеда М. М. пра кантрольныя лічбы народнай гаспадаркі і культуры БССР на 1929/30 г., Цэнтральны Выканаўчы Камітэт Беларускай ССР пастанаўляе:

1. Ухваліць прынятыя Саветам Народных Камісараў кантрольныя лічбы народнай гаспадаркі і культуры БССР на 1929/30 г.

2. Канстатаваць, што кантрольныя лічбы на 1929/30 г. цалкам адпавядаюць дырэктывам IX Усебеларускага Зьезду Саветаў, што ў іх яскрава адбіта генэральная лінія Камуністычнай партыі і савецкай улады на высокі, напружаны тэмп індустрыялізацыі краіны, саўгаснага будаўніцтва і на шырокае разьвіцьцё калектывізацыі вёскі, як асноўнага шляху сацыялістычнага ператварэньня сельскай гаспадаркі БССР, і што кантрольнымі лічбамі выразна адбіта лінія на далейшае замацаваньне пазіцый сацыялізму і рашучага наступу на кулацка-нэпманскія элемэнты гораду і вёскі, а таксама кантрольнымі лічбамі вызначаны значныя мерапрыемствы па падвышэньні матар'яльнага і культурнага ўзроўню рабочых і батракоў і бядняцка-серадняцкага сялянства.

3. Пасьпяховыя вынікі 1928/29 гаспадарчага году, як першага году пяцігодкі, прынятай на IX Усебеларускім Зьезьдзе Саветаў, і павышаныя праэктыроўкі на 1929-30 г. яскрава сьведчаць аб рэальнасьці нашых пляна‌ў, разьлічаных на высокія і напруджаныя тэмпы. Гэтыя вынікі сьведчаць аб вялікіх посьпехах пралетарыяту і савецкай улады на фронце сацыялістычнай рэканструкцыі народнай гаспадаркі і паказваюць наяўнасьць нявымерыма вялікіх энэргэтычных і матар'яльных магчымасьцяй, закладзеных у сыстэме сацыялістычна-плянавай гаспадаркі, якія (магчымасьці) могуць і павінны быць яшчэ шырэй мабілізаваны і пастаўлены на выкананьне высокіх тэмпаў сацыялістычнага будаўніцтва краіны.

4. Вопыт мінулага гаспадарчага году паказаў, што генэральная лінія Камуністычнай партыі і савецкай улады зьяў-

ляецца зусім правільнай, што гэтая лінія праверана і пацьверджана жыцьцём. Гэтым абвяргаюцца сьцьверджаньні панікёрскіх і апартуністычных элемэнтаў, якія ня вераць у сілы і моц пралетарыяту. Толькі на падставе правільнай палітычнай лініі Камуністычнай партыі і Савецкай улады і зьявілася магчымасьць падняць магутны рух сацыялістычнага спаборніцтва шырокіх пралетарскіх мас, увесьці бесьперапынны вытворчы тыдзень і г. д., якія таксама захопліваюць калгасы і бядняцка-серадняцкія масы вёскі. Усё гэта разам зьяўляецца магутным фактарам пасьпяховага сацыялістычнага будаўніцтва, на падставе мабілізацыі шырачэзных мас рабочых і вясковай бедноты на справу хутчэйшага ажыцьцяўленьня пяцігадовага пляну разьвіцьця народнай гаспадаркі і культуры.

5. Выходзячы з вынікаў 1928/29 гаспадарчага году, ухваліць асноўныя паказчыкі росту народнай гаспадаркі і культуры БССР, вызначаныя прынятымі Саветам Народных Камісараў кантрольнымі лічбамі на 1929/30 г., і лічыць іх падлягаючымі абавязковаму выкананьню:

а) па прамысловасьці: вызначыць рост валавой прадукцыі па цэнзавай прамысловасьці на 60,9 проц., падвышэньне вытворчасьці працы на 29,6 проц., рост намінальнай заработнай платы на 8 проц., што з улікам зьніжэньня бюджэтнага індэксу павінна даць рост рэальнай зарплаты на 11 проц., зьніжэньне сабекошту прадукцыі ВСНГ на 11 проц., капітальныя ўкладаньні ў прамысловасьць ВСНГ вызначыць у суме 52 млн. рублёў, зьніжэньне будаўнічага індэксу на 13 проц. Зьвярнуць асаблівую ўвагу на падвышэньне якасьці прамысловай прадукцыі;

б) па сельскай гаспадарцы: пашырэньне пасеўнай плошчы вызначыць ня менш, чым на 4 проц., падвышэньне ўраджайнасьці ня менш, чымся на 20 проц. па індывідуальных сялянскіх гаспадарках, на 25 проц. у калгасах і 30 проц. у саўгасах супроць сярэдняга ўраджаю 1924/28 г.; капітальныя ўкладаньні ў сельскую гаспадарку вызначыць у разьмеры 59,5 млн. рублёў.

Адзначыць, што пад кіраўніцтвам ЦК КП(б)Б і Ураду БССР праведзена рашучае выпраўленьне няправільнай кулацкай палітыкі, якая праводзілася Народным Камісарыятам Земляробства і яго органамі на мясцох і якая заключалася ў стварэньні і падтрыманьні кулацкіх гаспадарак (стаўка на кулацкі хутар, атруб, карлікавыя пасёлкі і г. д.). Рашучае наступленьне на капіталістычныя элемэнты спрыяла таму, што калектыўны рух сярод бядняцкага, серадняцкага сялянства БССР разгарнуўся ў шырачэйшым разьмеры. З гэтай прычыны Цэнтральны Выканаўчы Камітэт зварочвае асаблівую ўвагу ўсіх выканаўчых камітэтаў, саветаў і зямельных органаў на неабходнасьць разгортваньня напру-

джанай працы па далейшаму разьвіцьцю калектывізацыі сельскай гаспадаркі БССР. Неабходна ня толькі скарыстаць і арганізацыйна ахапіць разгарнуўшыся сярод бедняцка-серадняцкага сялянства калгасны рух і ўсямерна яго разьвіваць у далейшым і дабівацца сплашной калектывізацыі ня толькі цэлых раёнаў, але і цэлых акруг з такім разьлікам, каб поўную калектывізацыю ўсёй сельскай гаспадаркі закончыць у магчыма больш кароткі тэрмін, лічачы, што 13 проц. абагуленай сельскай гаспадаркі ў 1929/30 годзе зьяўляецца самым мінімальным заданьнем.

Даручыць Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў устанавіць канкрэтныя тэрміны поўнай калектывізацыі сельскай гаспадаркі БССР, у тым ліку яшчэ раз прапрацаваць лічбу калектывізацыі і на бягучы год;

в) вызначыць павялічэньне агульнага тавараразвароту на 29,7 проц., з узростам дробнага тавараразвароту на 15 проц.

Удзельную вагу аграмаджанага сэктару вызначыць у агульным тавараразвароце на 94,3 проц. супроць 90,3 проц. у мінулым годзе, а ў дробным—86 проц. супроць 79 проц.;

г) дзяржаўны бюджэт на 1929-30 г. вызначыць у разьмеры 148,4 млн. руб., уцягненьне сродкаў насельніцтва ў дзяржаўны зварот (праз дзяржаўныя пазыкі, паявыя накапленьні ў капэрацыі, ашчадныя касы і інш.)—у суме 38 м. р. Цэнтральны Выканаўчы Камітэт зварочвае асаблівую ўвагу ўсіх савецкіх, гаспадарчых і грамадзкіх арганізацый на неабходнасьць значнага ўзмацненьня работы па ўцягненьні дробных ашчад насельніцтва ў справу сацыялістычнага будаўніцтва;

д) па культурна-сацыяльнаму сэктару асаблівым дасягненьнем зьяўляецца падрыхтоўка да правядзеньня пляну ўсеагульнага абавязковага навучаньня, таму неабходна абавязкова выканаць запраектаваны кантрольнымі лічбамі ахоп дзяцей школай: ахоп усіх дзяцей 8-гадовага ўзросту і ліквідацыі на 1929/30 г. 100 проц. няпісьменнасьці падлеткаў ва ўзросьце ад 12 да 15 год, ня менш 75 проц. няпісьменных членаў калгасаў ва ўзросьце ад 16 да 35 год, 50 проц. членаў саюзу сельска-гаспадарчых рабочых і цалкам усіх членаў іншых саюзаў;

е) ажыцьцяўленьне задач сацыялістычнага будаўніцтва патрабуе цэлы шэраг вопытных працаўнікоў, таму Цэнтральны Выканаўчы Камітэт даручае Савету Народных Камісараў, пры разглядзе асобных частак пяцігодкі, у бок іх пашырэньня, прадугледзіць падрыхтоўку неабходных кадраў гэтых працаўнікоў.

6. Цэнтральны Выканаўчы Камітэт са здавальненьнем адзначае, што пастанову Савету Народных Камісараў ад 29 жніўня 1929 году пра кантрольныя лічбы народнай гас-

падаркі прадугледжана павялічэньне пяцігодкі па важнейшых галінах разьвіцьця народнай гаспадаркі і культуры БССР.

7. Вызначаныя паказчыкі народна-гаспадарчага разьвіцьця на 1929-30 г. сьведчаць аб высокіх і напруджаных тэмпах гаспадарчага будаўніцтва, якія ў асноўных галінах разьвіцьця народнай гаспадаркі значна перавышаюць праэктыроўкі пяцігодкі. Гэта патрабуе ад усіх гаспадарчых і савецкіх установ напруджанай штодзеннай працы, правядзеньня чоткай клясавай лініі ва ўсіх галінах працы, устанаўленьня цьвёрдай плянавай і гаспадарча-фінансавай дысцыпліны, усямернага разьвіцьця сацыялістычнага спаборніцтва, як мэтаду ўсяе работы; неабходна і далей разгортваць пралетарскую самакрытыку, мабілізуючы навакол яе і навакол выкананьня праграмы гаспадарчага будаўніцтва установленай Урадам Беларускай ССР, шырокія колы рабочае клясы, батрацка-бедняцкіх і серадняцкіх мас вёскі.

Старшыня Цэнтральнага Выканаўчага
Камітэту БССР **А. Чарвякоў.**

Сакратар Цэнтральнага Выканаўчага
Камітэту БССР **А. Хацкевіч.**

26-га лістапада 1929 г.
г. Менск.

## II.

## Пра дзяржбюджэт Беларускай ССР на 1929-30 г.

Заслухаўшы даклад Савету Народных Камісараў і сададаклад Бюджэтнай Камісіі Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Беларускай ССР аб дзяржаўным бюджэце Беларускай ССР на 1929-30 г., Цэнтральны Выканаўчы Камітэт адзначае:

1. Дзяржаўны бюджэт БССР на 1929-30 г. складзены ў поўнай адпаведнасьці з тымі задачамі, якія былі вызначаны Ўрадам БССР у зацьверджаным пяцігадовым пляне разьвіцьця народнай гаспадаркі і культуры. Разам з гэтым, у бюджэце знайшлі адбітак тыя зрухі, якія характарызуюць сучасны этап сацыялістычнага будаўніцтва—уздым вытворчага энтузіязму рабочай клясы праз разгортваньне сацыялістычнага спаборніцтва, шырокі рух бедняцка-серадняцкіх мас вёскі да калектывізацыі, увядзеньне бесьперапыннага працоўнага тыдню, што дае магчымасьць павялічэньня прынятых раней тэмпаў, скарачэньня вызначаных тэрмінаў, пашырэньня заданьняў і г. д. У адпаведнасьці з чым бюджэт даволі значна вышаў за межы, вызначаныя па пяцігадовым пляне і выперадзіў меркаваньні пяцігадовага фінансавага пляну.

2. Даходная частка дзяржаўнага бюджэту цалкам адбівае асноўныя дырэктывы Ўраду ў адносінах наступу на капіталістычныя элемэнты гораду і вёскі.

Адначасова з рэгуляваньнем накапленьняў у буржуазна-капіталістычнай часткі гораду па бюджэце на 1929-30 г. выразна праведзены клясавы прынцып ападаткаваньня на вёсцы—поўнае аслабаненьне ад падаткаў бедняты, палёгкі ў ападаткаваньні серадняка, больш поўнае выяўленьне капіталістычнай часткі вёскі і больш дасканалае правядзеньне індывідуальнага абкладаньня; таксама захавана сувязь паміж ападаткаваньнем паасобных галін гаспадаркі і пэрспэктывамі іх разьвіцьця, шляхам стымуляваньня праз падатак, як паасобных мерапрыемстваў, накіраваных да росту гаспадаркі і падняцьця ўраджайнасьці, так і паасобных яе галін—(жывёлагадоўля).

3. Значны рост непадатковай часткі даходаў дзяржбюджэту 1929-30 г. знаходзіцца ў поўнай сувязі з пашырэньнем аграмаджанай часткі народнае гаспадаркі і з поўным выкарыстаньнем тых пераваг, якія заключаюцца ў сацыялістычных формах гаспадараньня. Уздым вытворчасьці прамысловасьці, вызначанай на 1929-30 г., значнае зьніжэньне сабекошту, а таксама больш поўнае і мэтазгоднае выкарыстаньне лясных багацьцяў—знаходзяць свой адбітак у адпаведным павялічэньні даходаў аграмаджанага сэктару ў дзяржбюджэце.

У выніку шырокага разгортваньня сацыялістычных форм гаспадаркі і, у зьвязку з гэтым, зьмяншэньне ролі прыватнага сэктару ў народнай гаспадарцы, удзельная вага прыватнага сэктару ў даходах дзяржбюджэту паступова зьмяншаецца, і апошняе зьяўляецца характэрнаю адзнакаю дынамікі бюджэтных даходаў. Калі ў бюджэце 1928-29 г., з даходнай часткаю ў 79,9 млн. рублёў непасрэдныя плацяжы прыватнага сэктару склалі 17 млн. рублёў, ці 21,2 проц., то даходная частка бюджэту 1929-30 г. запраектавана ў 117,2 м. руб., гэта значыць, з ростам на 46,7 проц. пры плацяжах прыватнага сэктару, зьменшаных у абсалютным разьмеры і значна зьменшаных у сваёй удзельнай вазе (14,2 проц.).

4. Выдатковая частка дзярбюджэту 1929-30 г. накіравана поўнасьцю на выкананьне цэнтральных задач бягучага году: павялічэньне тэмпу індустрыялізацыі БССР, паглыбленьне і пашырэньне працэсу калектывізацыі сельскай гаспадаркі і яе машынізацыі і на працяг мерапрыемстваў па далейшым падвышэньню культурнага ўзроўню працоўных БССР.

Аб гэтым досыць выразна сьведчыць агульная лічбовая характарыстыка бюджэту пры росьце ўсяго бюджэту, у параўнаньні з мінулым годам, на 55%, выдаткі на народную гаспадарку ўзрастаюць на 89,3 проц., у тым ліку на прамысловасьць на 92,9 проц., на сельскую гаспадарку—92,6 проц., у тым ліку на калгасы—на 381 проц. і на саўгасы—на 214,6 проц.

Агульнаю адзнакаю выдатковай часьці дзяржбюджэту зьяўляецца палепшаньне дабрабыту і абслугоўваньня сацыяльна-культурных патрэб рабочае клясы і працоўных мас вёскі. Таксама выдаткі бюджэту 1929-30 г. маюць станоўчую адзнаку і ў тым, што яны забясьпечваюць пачатак: а) ажыцьцяўленьня ўсеагульнага навучаньня; б) дапамогі пэнсіяй састарэлым сялянам і в) арганізацыі фонду самастрахаваньня жанчын-сялянак. Гэта першыя крокі вялізарнейшых па сваёй значнасьці мерапрыемстваў шырокага наступу на фронце барацьбы за культуру, за аздараўленьне і перабудову быту вёскі. Апошнімі мерапрыемствамі («б» і «в») упяршыню закладваецца падмурак пад справу сацыяльнага страхаваньня працоўных вёскі.

У выдатковай частцы бюджэту таксама знаходзіць пэўны адбітак справа электрыфікацыі БССР. Спэцыяльнымі асыгнаваньнямі прадугледжваецца працяг будаўніцтва мясцовых электрастанцый з мэтаю павялічэньня іх магутнасьці і падрыхтоўкі да прыёму электраэнэргіі 1-й раённай электрастанцыі імя Сталіна.

Апрача гэтага на сродкі саюзнага бюджэту мяркуецца аднесьці скančэньне пабудовы першай раённай электрастанцыі імя Сталіна і пачатак пабудовы другой электрастанцыі.

Такім чынам, дзяржаўны бюджэт на 1929-30 г. цалкам адпавядае патрабаваньням належнага выкананьня матар'яльна-вытворчых плянаў як у напрамку непасрэднага фінансаваньня паасобных галін гаспадаркі, так і шляхам адпаведнага фінансаваньня мерапрыемств па вырашэньні праблемы кадраў—арганізатараў сацыялістычнага будаўніцтва.

5. Ня гледзячы на шырокае ажыцьцяўленьне мерапрыемстваў па выкананьні пляну разьвіцьця народнае гаспадаркі і культуры БССР, што выклікае неабходнасьць арганізацыі шэрагу новых устаноў і некаторага пашырэньня існуючых, у адпаведнасьці з ускладненьнем чарговых задач соцыялістычнага будаўніцтва, абсалютная сума адміністрацыйна-кіраўнічых выдаткаў устаноў на 1929-30 год амаль стабілізавана, а яе ўдзельная вага ў агульнай суме бюджэту значна зьменшана.

6. Вылічаныя па бюджэце, у адпаведнасьці з дырэктывай Ураду аб неабходнасьці максымальнага выкарыстаньня усіх прыбытковых крыніц, уласныя даходы БССР ня могуць поўнасьцю задаволіць усіх неадкладных патрэб, якія павінны быць пакрыты бюджэтам, у выніку чаго ўзьнікае неабходнасьць дапамогі з боку Саюзу ССР для збалянсаваньня бюджэту.

Адзначаючы памянёнае і ўлічваючы зьмены па паасобных артыкулах даходаў і выдаткаў, якія прапануюцца Бюджэтнай Камісіяй ЦВК, Цэнтральны Выканаўчы Камітэт Беларускай ССР пастанаўляе:

1. У пададзены Саветам Народных Камісараў праэкт дзяржаўнага бюджэту БССР на 1929-30 г. унесьці наступныя зьмены:

## ПА ДАХОДАХ.

### I. Падатковыя:

| | |
|---|---|
| а) Даход па прамысловым падатку прыняць арыентыровачна ў суме . . . . . . . . . | 28.185.000 руб. |
| б) Падаходны падатак павялічыць на 2.330.820 руб., зацьвердзіўшы яго, такім чынам, у агульнай суме . . | 7.145.820 „ |

II. Непадатковыя:

а) Павялічыць даход ад лясоў на 6.500.000 руб., прыняўшы агульную суму яго на 1929-30 г. у разьмеры . 51.500.000 руб.

б) Адлічэньні ад прыбыткаў прамысловасьці павялічыць на 4.000.000 руб., зацьвердзіўшы агульную суму гэтых адлічэньняў у ліку . . . . . . . . 13.400.000 „

в) Даходы рознага роду павялічыць на 200.000 руб., прыняўшы ў зьвязку з гэтым агульную суму іх у разьмеры . . . . . . . . . . . 600.000 „

III. Адлічэньні ад дзяржаўных унутраных пазык індустрыялізацыі павялічыць на 322.000 руб., зацьвердзіўшы, такім чынам, гэтыя адлічэньні ў агульнай суме . . 1.447.000 „

У зьвязку з памянёнымі зьменамі, агульны разьмер дзяржаўных даходаў па бюджэце БССР на 1929-30 г. прыняць у суме . . . . . . . . 117.190.070 „

## ПА ВЫДАТКАХ.

Зацьвердзіць паасобныя віды выдаткаў у сумах, якія прыняты Саветам Народных Камісараў БССР з тымі зьменамі, што прадугледжаны па наркамацкай групе, згодна пастановы СНК БССР за 12-е лістапада г. г. Апроч таго, ўнесьці ў выдатковую частку бюджэту на 1929-30 г. наступныя зьмены:

### I. Па ведамствах і ўстановах:

Павялічыць выдаткі па каштарысах:

а) ЦВК—на перавыбары саветаў на . . . . . 18.000 руб.

б) НКАсьветы на 435.000 р на прафтэхнічную асьвету за рахунак агульна-саюзнага фонду 3% адлічэньня ад прыбыткаў прамысловасьці і на 23.000 р.—на бесьперапынную практыку студэнтаў вышэйшых і сярэдніх навучальных устаноў, а ўсяго на . . . 458.000 „

в) НКЗемляробства на падрыхтоўку і перападрыхтоўку кадраў . . . . . . . . . . 250.000 руб.

Агульную суму выдаткаў па ведамствах і ўстановах на 1929-30 г. у адпаведнасьці з памянёнымі зьменамі—зацьвердзіць у разьмеры (разам з сацстрахам) . . 42.334.576 „

У тым ліку па каштарысе ЦВК—541.138 р. НКАсьветы. 16.460.885 „

і НК Земляробства . . . . . . . . 14.046.174 „

### II. Па фінансаваньні народнае гаспадаркі:

Павяліцыць асыгнаваньні на камунальную і сельскую электрыфікацыю на 750.000 р., з тым, што агульная сума на электрыфікацыю па бюджэце БССР на 1929-30 г. складае . . . . . . . . . . 1.750.000 „

З вучотам памянёных зьмен, агульную суму асыгнаваньняў (разам з выдаткамі на дарожнае будаўніцтва і аўтатранспарт) на народную гаспадарку прыняць у . 49.786.000 „

III. Па сродках, перадаваемых мясцоваму бюджэту:

| | |
|---|---|
| Павялічыць адлічэньні ад дзяржаўных даходаў на . | 2.697.300 руб. |
| Прыняўшы, такім чынам, агульную суму адлічэньняў у разьмеры: . . . . . . . . . . | 46.337.000 „ |
| Усе-ж сродкі, перадаваемыя мясцоваму бюджэту, разам з субвэнцыяй і школьным фондам такім чынам складуць. | 51.837.000 „ |
| У выніку ўнесеных усіх зьмен, перавышэньне выдаткаў над даходамі зьменшыцца і складзе. . . . | 31.267.506 „ |
| 2) Зацьвердзіць дзяржаўны бюджэт БССР на 1929-30 г. у агульнай суме . . . . . . . . . | 148.457.576 „ |
| 3) Лічачы немагчымым далейшае падвышэньне ўласных даходаў для поўнага пакрыцьця зусім безадкладных выдаткаў, прасіць Урад Саюзу ССР вызначыць дзеля збалянсаваньня дзяржаўнага бюджэту БССР на 1929-30 г. адлічэньні ад агульна-саюзных сродкаў у суме . . | 31.267.506 „ |

4. Улічваючы, што шэраг мерапрыемств, уключаемых у кантрольныя лічбы народнае гаспадаркі і культуры, ня можа быць з-за напруджанасьці фінансавых сродкаў Рэспублікі аднесены на бюджэт БССР, падцьвердзіць хадайніцтва СНК БССР перад Урадам Саюзу ССР аб дадатковых асыгнаваньнях з агульна-саюзнага бюджэту на капітальнае будаўніцтва па дзяржгандлю, на пабудову гэафізычнай абсэрваторыі і за рахунак Банка Доўгатэрмінавага Крэдытаваньня Саюзу ССР на капітальнае будаўніцтва прамысловасьці. Таксама падцьвердзіць хадайніцтва Ураду БССР аб водпуску 4.550.000 руб. за рахунак агульна-саюзнага бюджэту на праводзеньне ў 1929-30 г. пляну ўсеагульнага абавязковага навучаньня для дзяцей школьнага ўзросту.

5. Выкананьне сучасных вялізарных задач патрабуе творчай ініцыятывы, высокай актыўнасьці рабочае клясы і працоўнага сялянства, а таксама, як мага чоткай працы ад дзяржаўных установ і арганізацый. Ва ўмовах шырока разгорнутага сацыялістычнага будаўніцтва краіны асабліва патрэбна ўзгадненьне ў працы паасобных установ і арганізацый, а таксама падвышэньне адказнасьці кожнай з іх за выкананьне народна-гаспадарчых і сацыяльна-культурных плянаў. Таксама бюджэт апраўдае сваё прызначэньне і на справе будзе адпавядаць вышэйпададзенай яго характарыстыцы толькі ў выніку дакладнага яго выкананьня.

Прымаючы ўсё гэта пад увагу, Цэнтральны Выканаўчы Камітэт патрабуе ад усіх дзяржаўных установ: а) ужыць усе залежачыя ад іх захады да поўнага забясьпечаньня своечасовага паступленьня ў дзяржаўны бюджэт вылічаных па ім даходаў; б) пры выдаткаваньні прызначаных па бюджэце сродкаў, захоўваючы бюджэтную дысцыпліну і патрабаваньні найбольш іх эканомнага скарыстаньня, зьвярнуць асаблівую ўвагу на забясьпечаньне ўмоў найбольш мэтазгоднага скарыстаньня сродкаў па ажыцьцяўленьні капі-

тальнага будаўніцтва і новых мерапрыемстваў. Своечасовая, загадзя праведзеная распрацоўка плянаў будаўніцтва, падрыхтоўка апэрацыйных плянаў па правядзеньні паасобных мерапрыемстваў зьяўляюцца катэгарычнымі і абавязковымі патрабаваньнямі ад усіх распарадчыкаў дзяржаўных сродкаў.

6. З палепшаньнем дабрабыту насельніцтва, павялічэньнем яго грашовых накапленьняў, узрастае неабходнасьць больш шырокай працы па ўцягненьні вольных сродкаў насельніцтва ў дзяржаўныя каналы.

Гэта выклікаецца як патрабаваньнямі грашовага звароту, дзеля захаваньня патрэбнай роўнавагі ў таваразвароце, гэтак і асноўнай задачай рашучай мабілізацыі ўсіх маючыхся сродкаў на справу індустрыялізацыі краіны.

Шырока разгарнуўшаяся кампанія па падпісцы на 3-ю пазыку індустрыялізацыі сьведчыць аб высокім уздыме шырокіх пластоў працоўных мас рэспублікі на справу сацыялістычнага будаўніцтва.

Надзвычайная важнасьць гэтае працы патрабуе поўнай і сталай увагі да яе з боку ўсіх дзяржаўных і грамадзкіх арганізацый.

Побач з далейшай напружанай працай па ўцягненьні ў аграмаджаны зварот сродкаў гарадзкога насельніцтва, неабходна асаблівую ўвагу ўдзяліць мабілізацыі сродкаў сялянства, шляхам больш поўнага ахопу яго дзяржаўнымі пазыкамі і іншымі мерапрыемствамі і большага ўцягненьня ў гэтую працу вясковай грамадзкасьці.

Цэнтральны Выканаўчы Камітэт ставіць абавязковую для выкананьня задачу—узмацніць тэмп гэтай працы, пашырыць ахоп вольных сродкаў насельніцтва, і, гэтым самым, павялічыць прыток сродкаў на справу сацыялістычнага будаўніцтва.

Старшыня Цэнтральнага Выканаўчага
Камітэту БССР **А. Чарвякоў.**

Сакратар Цэнтральнага Выканаўчага
Камітэту БССР **А. Хацкевіч.**

26-га лістапада 1929 г.
г. Менск.

III.

## Па дакладу аб выкананьні дзяржаўнага бюджэту БССР за 1927-28 год.

Заслухаўшы справаздачу Савету Народных Камісараў Беларускай ССР аб выкананьні дзяржаўнага бюджэту БССР за 1927-28 год, Цэнтральны Выканаўчы Камітэт Беларускай ССР пастанаўляе:

1. Справаздачу аб выкананьні дзяржаўнага бюджэту БССР за 1927-28 г. зацьвердзіць у наступных сумах:

а) па дзяржаўных даходах, што паступілі ў касы Народнага Камісарыяту Фінансаў за рахунак бюджэту БССР за час з 1-га кастрычніка 1927 г. да 30-га верасьня 1928 г., пяцьдзесят дзевяць мільёнаў восемсот дваццаць тысяч чатырыста дваццаць восем рублёў (59.820.428 руб.);

б) па дзяржаўных выдатках, вытвараных касамі Народнага Камісарыяту Фінансаў за рахунак бюджэту БССР за час з 1-га кастрычніка 1927 г. да 30-е верасьня 1928 г., шэсьцьдзесят два мільёны сто шэсьць тысяч трыста семнаццаць рублёў (62.106.317 руб.).

2. Выкананьне дзяржаўнага бюджэту БССР за 1927/28 г. цалкам адпавядала асноўным задачам па соцыялістычнаму разьвіцьцю народнае гаспадаркі і па здавальненьню сацыяльна-культурных патрэб працоўных гораду і вёскі. У параўнаньні з папярэднім годам бюджэт справаздачнага 1927/28 г. значна павялічыў свой удзел у вытворчых працэсах народнай гаспадаркі. Гэтак, выдаткі дзяржаўнага бюджэту 1927/28 г. на фінансаваньне народнае гаспадаркі склалі 31,6 проц. агульнае сумы бюджэту супроць 27,4 проц. па бюджэту 1926/27 г. Выдаткі на соцыяльна-культурныя патрэбы па бюджэту 1927/28 г. склалі 23,9 проц. усёй сумы бюджэтных выдаткаў супроць 23,5 проц. у 1926/27 г., значна павысіўшыся ў абсалютным разьмеры (узрост на 26,9 проц.). Разам з тым, значна зьменшыліся, як ў абсалютнай суме, гэтак і па ўдзельнай вазе ў бюджэце, выдаткі на дзяржаўнае кіраваньне; гэтыя выдаткі ў бюджэце 1927/28 г. склалі 6,9 проц. агульнай сумы бюджэту супроць 9,7 проц. па бюджэту 1926-27 г.

3. Пры выкананьні дзяржаўнага бюджэту 1927/28 г. мелі месца паасобныя недахопы, асноўнымі з якіх зьяўляліся: недастатковая плянавасьць у капітальным будаўніцтве; недавыкананьне дырэктывы аб зьніжэньні сабекошту будаўнічых работ; недавыкананьне пляну землеўпарадчых работ; невыкананьне дырэктывы Ураду аб землеўпарадкаваньні ўсіх калгасаў, пры скрыўленьні клясавай лініі, якое адбілася ў арганізацыі значнага процанту атрубаў і хутароў; арганізацыйная непадрыхтаванасьць апаратаў паасобных устаноў да своечасовага і поўнага выкананьня вызначаных матар'яльных і фінансавых плянаў; наяўнасьць яшчэ да гэтага часу з боку паасобных устаноў недастатковай бюджэтнай дысцыплінаванасьці і ў сувязі з гэтым наяўнасьць выпадкаў незаконнага скарыстаньня бюджэтных сродкаў.

У мэтах зьнішчэньня памянёных недахопаў Цэнтральны Выканаўчы Камітэт БССР даручае ўсім дзяржаўным установам і арганізацыям на далейшы час строга захоўваць плянавасьць і фінансавую дысцыпліну пры скарыстаньні вызначаных па бюджэту і з іншых крыніц сродкаў, а таксама належным чынам арганізаваць працу апарату, прыстасоўваючы яе да выкананьня вызначаных плянаў. Толькі пры гэтых умовах, а таксама пры сканцэнтраваньні на гаспадарчых і фінансавых пытаньнях увагі ўсіх працоўных будуць выкананы тыя велізарныя задачы, якія вызначаны пяцігадовым плянам разьвіцьця народнае гаспадаркі і культуры БССР.

Старшыня Цэнтральнага Выканаўчага
Камітэту БССР **А. Чарвякоў.**

Сакратар Цэнтральнага Выканаўчага
Камітэту БССР **А. Хацкевіч.**

26-га лістапада 1929 г.
г. Менск.

IV.

## Па дакладу аб каляктывізацыі сельскай гаспадаркі.

1. Шпаркі тэмп індустрыялізацыі краіны, на аснове ўсё ўзрастаючай творчай энэргіі рабочае клясы, і ўзмацненьне вядучай ролі буйнай сацыялістычнай прамысловасьці ў разьвіцьці ўсёй народнай гаспадаркі садзейнічаюць і ствараюць ўмовы для шпаркага разгортваньня працы па сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі, узмацненьня вытворчай змычкі паміж рабочай клясай з асноўнымі масамі сялянства і рашучага наступу на капіталістычныя элемэнты гораду і вёскі.

2. Цэнтральны Выканаўчы Камітэт Беларускай ССР адзначае, што пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі (бальшавікоў) Беларусі і Ўраду БССР праведзена рашучае выпраўленьне няправільнай кулацкай палітыкі, якая праводзілася Народным Камісарыятам Земляробства і яго органамі на мясцох і якая заключалася ў стварэньні і падтрыманьні кулацкіх гаспадарак (стаўка на кулацкі хутар, отруб, карлікавыя пасёлкі і г. д.). Рашучы наступ на капіталістычныя элемэнты спрыяў таму, што каляктыўны рух сярод бедняцка-серадняцкага сялянства і батрацтва БССР разгарнуўся ў шырачайшым разьмеры.

За апошні год працы плошча пад калгасамі пашырылася з 94.458 да 336.720 га. па становішчу на 1 кастрычніка 1929 г. Імкненьне асноўных бедняцка-серадняцкіх мас у калгасы ўсё ўзрастае, аб чым сьведчыць абагуленьне толькі за кастрычнік месяц бягучага году звыш 200.000 га. На 15 лістапада пад калгасамі знаходзіцца ўжо звыш 574.619 га.

Арганізуюцца ўжо буйныя калгасы на плошчы ў 5.000, 7.000 і 12.000 га. Разгорнута праца па суцэльнай каляктывізацыі цэлых раёнаў і асобных акруг.

3. Асноўныя бедняцка-серадняцкія масы вёскі, пры дапамозе і пад кіраўніцтвам рабочае клясы і яго авангарда— Камуністычнай партыі, пераканаўшыся ў пераважнасьці каляктыўных форм земляробства на практычных выніках гаспадарчай дзейнасьці калгасаў і саўгасаў, шырока разгарнулі

самадзейнасьць і ініцыятыву па перабудове сваіх дробных адсталых, малатаварных гаспадарак у буйныя калектыўныя гаспадаркі.

Калгасны рух, перамагаючы шалёнае супраціўленьне і барацьбу кулацтва супроць мерапрыемстваў, накіраваных на хутчэйшую сацыялістычную рэканструкцыю сельскай гаспадаркі, шырока ахоплівае працоўнае сялянства ўсіх нацыянальнасьцяй. У прыватнасьці значныя посьпехі ў справе калектывізацыі адзначаюцца сярод яўрэйскага працоўнага насельніцтва, якое пераходзіць да працы ў сельскай гаспадарцы.

Першыя вынікі калгаснага будаўніцтва сьведчаць аб вялізарнейшых магчымасьцях уздыму вытворчасьці ў сельскай гаспадарцы, якія забясьпечваюцца ўмовамі савецкага ладу.

4. Узмацненьне і ўздым саўгасаў, як пасьлядоўна сацыялістычных гаспадарак, і шпаркае разгортваньне калгаснага будаўніцтва забясьпечваюць хуткае вырашэньне задачы павялічэньня таварнай часткі прадукцыі сельскай гаспадаркі і сыравіны. Ужо зараз таварная частка прадукцыі саўгасаў і калгасаў займае значнае месца ў агульнай масе таварнай прадукцыі ўсёй сельскай гаспадаркі. Ураджайнасьць у саўгасах і калгасах вышэй ураджайнасьці індывідуальных гаспадарак, што зьяўляецца падставай значнага палепшаньня матар'яльнага становішча насельніцтва калгасаў.

5. Аднак, пры значных дасягнутых посьпехах у калгасным будаўніцтве маюць месца буйныя недахопы, галоўнейшымі з якіх зьяўляюцца:

а) усё яшчэ нізкая вытворчасьць працы ў калгасах, недастатковая вытворчая дысцыпліна, неарганізаванасьць унутранага распарадку, слабая абагуленасьць сродкаў вытворчасьці, слабы рост непадзельных капіталаў і зусім недастатковая мабілізацыя і ўцягненьне ў будаўніцтва калгасаў сродкаў самога насельніцтва;

б) адсутнасьць арганізацыйных і вытворчых плянаў у калгасах, неправедзеньне спэцыялізацыі гаспадарак і нездавальняючае становішча жывёлагадоўлі;

в) зусім недастатковая колькасьць спэцыялістых і нездавальняючае агранамічнае абслугоўваньне, неўкамплектаванасьць і ў большасьці слабасьць кіруючых кадраў калгасаў і калгассаюзаў; недастатковае кіраўніцтва і дапамога з боку савецкіх органаў, у выніку чаго калгасны рух апераджае і ідзе месцамі ўперадзі кіраўніцтва;

г) засьмечанасьць шэрагу калгасаў кулацка-нэпманскімі элемэнтамі, выпадкі невыкананьня сваіх абавязкаў калгасамі перад дзяржавай, сувязь з прыватным рынкам і г. д.

6. Маючы на ўвазе гістарычна вельмі нізкі ўзровень сельскай гаспадаркі БССР, нізкую таварнасьць яе, вялікую аг-

рарную перанасяленасьць, вострае малазямельле і раздробленасьць сельскай гаспадаркі, асабліва хутарызацыю яе ў мінулым, і грунтуючыся на шырока разгарнуўшымся, усё ўзрастаючым імкненьні асноўных бедняцка-серадняцкіх мас у калгасы, Цэнтральны Выканаўчы Камітэт лічыць асабліва неабходным завастрэньне ўвагі ўсіх савецкіх, гаспадарчых органаў і ўсёй савецкай грамадзкасьці на неабходнасьці ўсе сілы і энэргію накіраваць на ўсямернае ўзмацненьне сацыялістычнай перабудовы вёскі, як адзінага мерапрыемства, забясьпечваючага сапраўдны ўздым сельскай гаспадаркі, на выкарчоўваньні карэньняў капіталізму і на рашучым змаганьні з недаацэнкай значэньня калгаснага будаўніцтва.

Выходзячы з гэтага, Цэнтральны Выканаўчы Камітэт пастанаўляе:

1. Прапанаваць Прэзыдыуму ЦВК і СНК распрацаваць пляны калгаснага будаўніцтва, выходзячы з неабходнасьці максымальнага скарачэньня тэрмінаў поўнай і суцэльнай калектывізацыі ўсёй сельскай гаспадаркі БССР і паставіўшы практычныя задачы поўнасьцю калектывізаваць усе бедняцка-серадняцкія гаспадаркі ў найбольш кароткі тэрмін. Паводле гэтай асноўнай дырэктывы, вызначыць заданьні на бягучы год і зараз-жа прыступіць і пабудаваць да 1 красавіка 1930 году плян поўнай калектывізацыі, арганізацыі і гаспадарчага ўпарадкаваньня калгасаў, прадугледзіўшы ў гэтым пляне найбольш хуткае ажыцьцяўленьне інтэнсіфікацыі, індустрыялізацыі калгаснае гаспадаркі і максымальнага скарыстаньня працоўнай сілы.

2. Галоўнейшай задачай саветаў, асабліва на вёсцы, павінна быць усямернае ўзмацненьне працы па далейшаму разгортваньню калектывізацыі. Праца саветаў павінна быць накіравана на арганізацыю і больш поўнае першачарговае абслугоўваньне насельніцтва калгасаў, наператварэньне іх у базы перабудовы вёскі на соцыялістычных падставах і ў базы агракультурных і сацыяльна-бытавых мерапрыемстваў саветаў. Таму неабходна ўсямерна ўзмацніць кіруючую ролю саветаў у адносінах да калгасаў, павялічыць адказнасьць саветаў за калгаснае будаўніцтва, увёўшы ў сыстэму працы справаздачнасьць калгасаў перад саветамі, не дапускаючы, аднак, дробнай апекі і адміністраваньня ў кіраўніцтве калгасамі. Абавязаць усе савецкія органы ўзмацніць кіраўніцтва калгасным будаўніцтвам і асноўны цяжар сваёй работы накіраваць на садзейнічаньне перабудове вёскі на сацыялістычны лад і на мабілізацыю для выкананьня гэтай задачы ўсёй масы рабочых, батракоў і бедняцка-серадняцкага сялянства.

Работу зямельных органаў поўнасьцю падначаліць выкананьню задачы разьвіцьця вытворчасьці ў сельскай гаспадарцы на падставе калектывізацыі і вытворчага капера-



Бл 152994 б
Инв. 1953 г.
ССР ... Леніна ... бібліятэка

ваньня. Зямельныя органы ў сапраўднасьці павінны зьяўляцца арганізатарамі буйнага сацыялістычнага земляробства.

Прапанаваць Прэзыдыуму ЦВК і СНК распрацаваць шэраг практычных мерапрыемстваў па ўзмацненьні кіраўніцтва і дапамогі з боку савецкіх і гаспадарчых арганізацый справе калектывізацыі сельскай гаспадаркі.

Адзначыць, што камітэты сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі яшчэ не перабудавалі сваёй працы ў напрамку актыўнага ўдзелу ў калектывізацыі сельскай гаспадаркі. Паводле гэтага, прапанаваць выканаўчым камітэтам і саветам максымальна прыцягнуць Камітэты Сялянскай Узаемадапамогі да актыўнага ўдзелу ў калектывізацыі вёскі. Камітэты сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі павінны накіраваць сваю дзейнасьць і сродкі на аказаньне матар'яльнай дапамогі па ўваходу ў калгасы батрацтва, беднаты, а таксама інвалідаў вайны, чырвоных партызанаў і сем'яў чырвонаармейцаў гэтых груп сялянства.

3. Прапанаваць СНК, Калгассаюзу і ўсім акруговым выканаўчым камітэтам далейшую працу праводзіць галоўным чынам у напрамку пляноваго ахопу калектывізацыяй цэлых сельскіх саветаў і раёнаў, выкарыстоўваючы пры гэтым маючыяся сродкі вытворчасьці, будуючы буйныя машынізаваныя калгасы і камбінаты, якія павінны паступова ператварацца ў сапраўдныя сацыялістычныя прадпрыемствы, на базе сучаснай машыннай тэхнікі і навейшых навуковых дасягненьняў, шырока выкарыстоўваючы пры гэтым лепшы вопыт саўгасаў БССР і саюзных рэспублік.

Адзначаючы адставаньне працы навуковых устаноў у справе распрацоўкі шэрагу актуальнейшых пытаньняў, зьвязаных з калгасным будаўніцтвам, неабходна работу іх прыстасаваць да абслугоўваньня патрэб сацыялістычнага земляробства, паскорыўшы вывучэньне пытаньняў, зьвязаных з арганізацыяй буйнай гаспадаркі і працы ў ёй.

4. Зьвярнуць асаблівую ўвагу выканаўчых камітэтаў, калгасных і капэрацыйных органаў на неабходнасьць усямернага замацаваньня і ўздыму ўжо існуючых калгасаў, дабіўшыся рашучага пералому па ўздыму вытворчасьці працы, працоўнай дысцыпліны, уздыму ўраджайнасьці і павялічэньня таварнай прадукцыі, на падставе сапраўдна сьвядомых адносін сяброў калгасаў да сваіх абавязкаў. Тэрмінова распрацаваць і прыняць адпаведныя захады да палепшаньня ўнутранага распарадку, упарадкаваньня пытаньня разьмеркаваньня прыбыткаў, наладжваньня рахункаводзтва і г. д., устанаўліваючы асабістую адказнасьць за даручаную працу і ствараючы матар'яльную зацікаўленасьць кожнага калгасьніка ў узьняцьці вытворчасьці працы. Шырока разгарнуць

працу па сацыялістычнаму спаборніцтву, стала наладжваючы правядзеньне вытворчых нарад і шырока разгортваючы самакрытыку.

5. Абавязаць Калгассаюз і Народны Камісарыят Земляробства правесьці належную працу па арганізацыі гаспадаркі ў калгасах; пабудаваць да вясновай сяўбы арганізацыйныя і вытворчыя пляны ва ўсіх калгасах; распрацаваць мерапрыемствы па пашырэньні інтэнсыўных культур і рашучым палепшаньні жывёлагадоўлі ў калгасах, а таксама па разгортваньні будаўніцтва падсобных прадпрыемстваў і саматужных промыслаў, прыцягваючы да гэтай справы саветы.

6. Адным з мерапрыемстваў, забясьпечваючых узмацненьне калгасаў і вытворча-эканамічнае рэгуляваньне з боку пралетарскай дзяржавы, павінен зьяўляцца максымальна поўны ахоп кантрактацыйнымі дагаварамі таварных лішкаў, ставячы задачу падвышэньня таварнасьці калгасаў і забясьпечаньня плянавай здачы імі таварных лішкаў на падставе палепшаньня вытворчасьці і разьвіцьця ў калгасах элемэнтаў абагуленасьці.

Крэдытаваньне і забясьпечаньне калгасаў сродкамі вытворчасьці, агро і зоотэхнічнае абслугоўваньне іх павінна праводзіцца ва ўмовах, прадугледжваючых абавязковую здачу калгасамі ў пэўныя тэрміны і ва ўстаноўленых дагаварамі размерах таварнай прадукцыі; у сувязі з гэтым неабходна весьці рашучую барацьбу з тымі калгасамі, якія ня выконваюць сваіх абавязкаў перад дзяржавай і здаюць свае лішкі таварнай прадукцыі прыватніку.

7. Шырокае разгортваньне калгаснага будаўніцтва і яго посьпехі немагчымы без усямернага росту і ўзмацненьня абагуленых фондаў і непадзельных капіталаў. Таму прапанаваць СНК і Калгассаюзу распрацаваць мерапрыемствы і разгарнуць працу па найбольш хуткаму абагуленьню сродкаў вытворчасьці, асабліва ў такой галіне гаспадаркі, як жывёлагадоўля; распрацаваць сталы парадак і паказаньні аб арганізацыі непадзельных капіталаў.

Зьвярнуць асаблівую ўвагу на неабходнасьць усямернага ўзмацненьня ўцягненьня сродкаў самога насельніцтва ў калгаснае будаўніцтва. Неабходна весьці рашучую барацьбу з выпадкамі ліквідацыі маёмасьці пры ўваходжаньні ў калгасы, прыняўшы за правіла і стала праводзячы на практыцы аказаньне дзяржаўнай дапамогі калгасам, пры ўмовах павялічэньня ўкладаньняў у калгасы з боку самога насельніцтва і асабліва пры ўмовах выкананьня калгасамі ўстаноўленых статутнымі і дагаворнымі патрабаваньнямі павялічэньняў унутрыгаспадарчых фондаў (мабілізацыя паёў, арганізацыя спэцыяльных мэтавых фондаў, збор задаткаў на набыцьцё трактараў, складаных машын, будаўніцтва прадпрыемстваў, арганізацыя спэцыяльных экспартных фондаў і г. д.). Кал-

гассаюзу распрацаваць шэраг мерапрыемстваў, якія-б забясьпечылі больш поўнае ўцягненьне сродкаў сялянства, якое ўваходзіць у калгасы.

8. Адзначаючы слабую забясьпечанасьць калектыўнага будаўніцтва кадрамі кіраўнікоў спэцыялістых, даручыць Савету Народных Камісараў у месячны тэрмін распрацаваць мерапрыемствы па забясьпечаньню кадрамі, шляхам адчыненьня новых прафшкол, тэхнікумаў, факультэтаў, шляхам павялічэньня прыёму ў існуючыя навучальныя ўстановы і прыцягненьня з навучальных устаноў Савецкага Саюзу навуковых сіл, а таксама арганізацыі практычнай падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі існуючых кадраў.

Шырокае разгортваньне калгаснага будаўніцтва патрабуе прыняцьця рашучых мерапрыемстваў па ўзьняцьці культурнага ўзроўню калгаснага насельніцтва, таму Савету Народных Камісараў, выканаўчым камітэтам, калгаснай сыстэме і сельска-гаспадарчай і спажывецкай каперацыі неабходна разгарнуць шырокую працу па культурнаму абслугоўваньню калгасаў, шляхам разгортваньня радыё-ўзлоў у буйных калгасах, разгортваньня школьнага будаўніцтва, ліквідацыі няпісьменнасьці, арганізацыі розных гурткоў, больш шырокага ахопу дзяцей школай і рашучага ўзмацненьня культ-асьветнай працы сярод жанчын і ўсямернай дапамогі пашырэньню і палепшаньню працы бытавых устаноў (сталоўкі, яслі, пляцоўкі і г. д.). Неабходна шырока выкарыстаць зімовы пэрыяд для разгортваньня масавай агранамічнай прапаганды сярод насельніцтва калгасаў.

Зьвярнуцца з прапановай да прафэсыянальных саюзаў аб вылучэньні рабочых з вытворчасьці і накіраваньня іх для непасрэднай працы ў Калгассаюз, з мэтай унясеньня вопыта буйнага індустрыяльнага прадпрыемства ў сельска-гаспадарчую вытворчасьць.

Даручыць Савету Народных Камісараў і Камандаваньню Беларускай Вайсковай Акругі распрацаваць мерапрыемствы па ўцягненьню Чырвонай Арміі ў дапамогу сацыялістычнаму будаўніцтву сельскай гаспадаркі, шляхам выкарыстаньня шэфства паасобных вайсковых частак над калгасамі, падрыхтоўкі ў Арміі арганізатараў-кіраўнікоў, кваліфікаванай працоўнай сілы, выкарыстоўваючы ўжо тых спэцыялістых, якія маюцца.

9. Шырокае разгортваньне калгаснага руху праходзіць і будзе праходзіць ва ўмовах абвостранай клясавай барацьбы на вёсцы і зьмены форм і мэтадаў барацьбы. Разам з узмацненьнем непасрэднай барацьбы кулацтва супроць калектывізацыі (забойства, падпалы і шкодніцтва) кулакі ўсё часьцей пераходзяць да скрытых форм барацьбы і эксплёатацыі, пралязаючы ў калгасы, і, нават, у кіруючыя органы калгасаў з мэтай разбурэньня апошніх. У сувязі з гэтым, неаб-

ходна праводзіць барацьбу з лжэ-калгасамі, зьяўляючыміся маскіроўкай кулацтва і арудзьдзем барацьбы іх з соцыялістычнай рэканструкцыяй сельскай гаспадаркі, яшчэ больш узмацняючы і разгортваючы сацыялістычнае наступленьне на капіталістычныя элемэнты вёскі, усямерна перашкаджаючы і прасякаючы спробы прасачваньня кулацтва ў калгасы, ўсямерна ўзмацняючы бедняцка-серадняцкае ядро ў калгасах.

10. Адным з галоўнейшых мерапрыемстваў, якія садзейнічаюць далейшаму калгаснаму будаўніцтву, зьяўляецца забясьпечаньне сельскай гаспадаркі сродкамі вытворчасьці, сельска-гаспадарчымі машынамі і мінэральнымі ўгнаеньнямі, у сувязі з чым прапанаваць Савету Народных Камісараў прыняць рашучыя захады да павялічэньня завозу ў БССР трактараў і іншых складаных сельска-гаспадарчых машын; распрацаваць мерапрыемствы, забясьпечваючыя больш поўнае і рэнтабельнае скарыстаньне маючыхся і завазімых у БССР трактароў, шляхам арганізацыі калён, машынна-трактарных станцый, наладжваньня рамонту і г. д.; праводзіць работу па куставаньні калгасаў, найбольш поўна выкарыстоўваючы, як маючыяся трактары, так і конскую сілу, а таксама павялічыць завоз мінэральных угнаеньняў і выкарыстоўваньне мясцовых—торпу, вапны, лубіну і г. д.

У месячны тэрмін грунтоўна пераглядзець выраб сельска-гаспадарчых машын на заводах БССР, з мэтай прыстасаваньня працы гэтых заводаў да забясьпечаньня патрэб калгаснага будаўніцтва, а таксама пераглядзець пляны завозу ў БССР складаных сельска-гаспадарчых машын з мэтай павялічэньня іх колькасьці.

Для ўзмацненьня тэхнічнай базы калгасу і хутчэйшай рэканструкцыі яе, лічыць патрэбным больш інтэнсыўнае разгортваньне сеткі электраўстановак у калгасах, у першую чаргу ў куставых аб'яднаньнях і буйных калгасах. Разам з пабудовай спэцыяльных электрастанцый належыць скарыстаць для сельска-гаспадарчай вытворчасьці калгасаў энэргію гарадзкіх, прамысловых і раённых (першая Раённая Электрастанцыя імя Сталіна) электрычных станцый.

11. Даручыць Прэзыдыуму ЦВК і СНК зьвярнуць асаблівую ўвагу на арганізацыю буйных савецкіх і калякты ўных гаспадарак на забалочаных і маласкарыстоўваемых землях, пасьля іх інтэнсыўнай мэліарацыі.

Выключную ўвагу зьвярнуць на падрыхтоўку (упарадкаваньне, інтэнсыўная мэліарацыя) забалочаных і песчаных абшараў рэдка заселенага Палесься і скарыстаньня іх для арганізацыі буйных савецкіх і калякты ўных гаспадарак—высока індустрыяльных, малочна-мясных камбінатаў, баз тэхнічнае сыравіны (канапля, бульба), насенных баз і інш.

12. Надыходзячая вясновая пасеўная кампанія павінна прайсьці пад лёзунгам максымальнага разгортваньня працы

па сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі і далейшага рашучага наступленьня і выкарчоўваньня карэньняў капіталізму.

Пасьпяховасьць выкананьня пастаўленых задач у значнай меры будзе залежыць ад ступені далейшага ўздыму актыўнасьці і самадзейнасьці і практычнай працы шырачэзных рабочых і бедняцка-серадняцкіх мас сялянства і ўсіх працоўных БССР. Цэнтральны Выканаўчы Камітэт зварочваецца з заклікам да ўсіх рабочых, да ўсяго бедняцка-серадняцкага сялянства і працоўнай інтэлігэнцыі яшчэ шчыльней аб'яднацца навакол саветаў і пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі, з удзесяцеронай энэргіяй разгарнуць працу па поўнай сацыялістычнай рэканструкцыі сельскае гаспадаркі БССР.

Старшыня Цэнтральнага Выканаўчага
Камітэту БССР **А. Чарвякоў.**

Сакратар Цэнтральнага Выканаўчага
Камітэту БССР **А. Хацкевіч.**

26-га лістапада 1929 г.
г. Менск.

V.

## Па дакладу аб суцэльнай калякты візацыі ў Клімавіцкім раёне.

1. Клімавіцкі раён, вызначаны для суцэльнай калектывізацыі, першы на Беларусі па справе арганізацыі буйных калгасаў, у якім сацыялістычны сэктар ахапіў ужо 75 проц. усёй зямельнай плошчы раёну. Пад калгасамі ў раёне занята 80.000 га., маецца шэраг буйнейшых калгасаў, з плошчай да 10.000 га. кожны, з ахопам суцэльнай калектывізацыяй большасьці сельскіх саветаў.

2. Улічваючы дасягнутыя посьпехі ў справе калектывізацыі ў Клімавіцкім раёне і прызнаючы неабходнасьць пабудовы ў раёне суцэльнай калектывізацыі ўзорнай гаспадаркі, што патрабуе спэцыяльнай увагі і ўсямернага падтрыманьня і дапамогі, Цэнтральны Выканаўчы Камітэт БССР пастанаўляе:

а) даручыць Прэзыдыуму ЦВК і СНК БССР распрацаваць мерапрыемствы ў галіне адпаведнага напрамку і разьвіцьця гаспадаркі раёну, работы каперацыйных і грамадзкіх арганізацый, камітэтаў сялянскай узаемадапамогі і г. д., прыстасоўваючы ўсю работу да ўмоў суцэльнай калектывізацыі;

(б) прапанаваць Народнаму Камісарыяту Земляробства, Белкалгассаюзу і іншым сыстэмам сельска-гаспадарчай каперацыі распрацаваць канкрэтныя мерапрыемствы па будаўніцтву прадпрыемстваў, якія будуць садзейнічаць сацыялістычнай рэканструкцыі сельскае гаспадаркі і ўзмацненьню існуючых калгасаў. Прапанаваць Народнаму Камісарыяту Земляробства і Вышэйшаму Савету Народнае Гаспадаркі таксама прыняць захады да электрыфікацыі Клімавіцкага раёну.

3. Народнаму Камісарыяту Земляробства, Калгассаюзу і Магілеўскаму Акруговаму Выканаўчаму Камітэту, з мэтай замацаваньня арганізацыйных калгасаў і хутчэйшага сканчэньня калектывізацыі ўсяго Клімавіцкага раёну, прыняць наступныя меры:

а) больш поўна забясьпечыць раён працаўнікамі і спэцыялістымі, трактарамі, складанымі сельска-гаспадарчымі машынамі, мінэральнымі ўгнаеньнямі і гатунковым насеньнем, уключыўшы раён у плян спэцыяльнага снабжэньня, забясьпечыўшы неабходнымі крэдытамі, а пры арганізацыі машынна-трактарных станцый на Беларусі ў першую чаргу арганізаваць гэткую на Клімаўшчыне;

б) лічыць неабходным прыцягнуць навуковыя сілы Горацкай Сельска-Гаспадарчай Акадэміі і Інстытуту імя Леніна да распрацоўкі канкрэтнага пляну рэканструкцыі сельскай гаспадаркі Клімавіцкага раёну, да распрацоўкі гаспадарчых і арганізацыйных пляпаў буйнейшых калгасаў, парадку вучоту, арганізацыі работы і інш.

4. Даручыць Народнаму Камісарыяту Асьветы, Народнаму Камісарыяту Аховы Здароўя, Упаўнаважанаму Наркампаштэля, Галоўнай Управе шосавых і грунтавых дарог і аўтамабільнага транспарту БССР, каперацыйным і іншым цэнтрам распрацаваць канкрэтныя мерапрыемствы, якія-б забясьпечылі гаспадарча-культурнае разьвіцьцё раёну, вылучыўшы для гэтай мэты адпаведныя сродкі.

Старшыня Цэнтральнага Выканаўчага
Камітэту БССР **А. Чарвякоў.**

Сакратар Цэнтральнага Выканаўчага
Камітэту БССР **А. Хацкевіч.**

26-га лістапада 1929 г.
г. Менск.

VI.

## Аб чыстцы савецкага апарату.

1. Задачы сацыялістычнага будаўніцтва савецкай краіны, а таксама абвастрэньне клясавай барацьбы патрабуюць чоткае працы ўсяго нашага апарату, як у сэнсе ажыцьцяўленьня клясавай лініі камуністычнай партыі і савецкай улады, так і ў сэнсе своечасовага вырашэньня практычных задач сацыялістычнага будаўніцтва.

Між тым, у практычнай рабоце паасобных галін і зьвеньняў апарату заўважваюцца скажэньні клясавай лініі партыі і Ураду, несваячасовае вырашэньне шэрагу дырэктыў і загадаў Ураду, праяўленьне цяганіны, бюрократызму, шкодніцтва, грубых і няўважлівых адносін да працоўных і інш. недапушчальныя зьявішчы.

2. Выходзячы з гэтага, Цэнтральны Выканаўчы Камітэт Беларускай ССР ухваляе пастанову Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту за 18 мая 1929 г. і Савету Народных Камісараў БССР за 16 мая 1929 г. аб правядзеньні чысткі апарату ад асоб сацыяльна-шкодных, скажаючых лінію партыі і Ураду, ад бюракратычных і разлажыўшыхся элемэнтаў, ад хабарнікаў, растратчыкаў і інш., якія перашкаджаюць сацыялістычнаму будаўнцтву.

3. Цэнтральны Выканаўчы Камітэт Беларускай ССР таксама ўхваляе ўзяты напрамак працы па чыстцы апарату, які мае мэтаю ня толькі ачышчэньне апарату ад паасобных шкодных элемэнтаў, але і праверку работы наогул з тым, каб сыстэму работы, мэтады яе, арганізацыйную структуру, практыку кіраўніцтва прывесьці ў пэўную суадпаведнасьць з вялізарнейшымі задачамі сацыялістычнага будаўніцтва.

4. Адначасова з гэтым, Цэнтральны Выканаўчы Камітэт адзначае, што работа па чыстцы апарату да апошняга часу не дала яшчэ належных вынікаў, з прычыны таго, што на практыцы, як органамі рабоча-сялянскай інспэкцыі, так і іншымі савецкімі органамі амаль ня выконваліся дырэктывы Ураду і Народнага Камісарыяту Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі наконт праверкі самае працы апарату; што рабочыя, батракі і бедняцка-серадняцкія масы вёскі мала былі арганізацыйна

ахоплены і ўцягнуты ў непасрэдны ўдзел па праверцы работы апарату; што камісіі па чыстцы часта ацэньвалі паасобных работнікаў ня з боку якасьці іх работы ў сэнсе ажыцьцяўленьня правільнай клясавай лініі ў іх дзейнасьці, а абмяжоўваліся толькі момантамі сацыяльнага паходжаньня; што некаторыя кіраўнікі ўстаноў часта ня толькі не праяўлялі ініцыятывы, але і не аказвалі дапамогі органам Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі ў правядзеньні чысткі.

5. Надаючы вялікае палітычнае значэньне праверцы апарату і чыстцы асабовага складу, Цэнтральны Выканаўчы Камітэт абавязвае Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту, Савет Народных Камісараў, акруговыя і раённыя выканаўчыя камітэты, гарадзкія, местачковыя і сельскія саветы і кіраўнікоў устаноў прыняць непасрэдны актыўны ўдзел у рабоце па чыстцы апарату, як у сэнсе выяўленьня па сваёй ініцыятыве ўсіх недахопаў у рабоце апарату, так і ўсялякай дапамогі і садзейнічаньня органам Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі ў справе праверкі і чысткі апарату.

6. Мэта ачышчэньня апарату ад элемэнтаў, па сваёй рабоце няпрыгодных да выкананьня задач сацыялістычнага будаўніцтва, ня будзе дасягнута, калі ўзамену вычышчаных наш апарат ня будзе асьвяжон новымі кадрамі працаўнікоў, вылучаных з мас рабочых і работніц, батракоў і бедняцка-серадняцкіх колаў вёскі, жанчын-бяднячак і батрачак. Адводзячы ў рабоце па чыстцы апарату цэнтральнае месца пытаньням вылучэнства ў апарат сьвежых кадраў працаўнікоў, Цэнтральны Выканаўчы Камітэт лічыць працу па падборы кадраў вылучэнцаў і іншую падрыхтоўку, а таксама стварэньне спрыяючых умоў для работы вылучэнцаў, аднэй з важнейшых задач усіх выканаўчых камітэтаў, саветаў і ўсіх савецкіх устаноў і прадпрыемстваў.

7. Адзначаючы недастатковую разгорнутасьць работы сярод мас рабочых і батракоў па падборы кадраў вылучэнцаў, Цэнтральны Выканаўчы Камітэт лічыць неабходным, каб Цэнтральны Савет Прафэсыянальных Саюзаў Беларусі і ўсе прафарганізацыі Беларусі па сваёй лініі надалі гэтаму пытаньню баявое значэньне і забясьпечылі сталае асьвяжэньне асабовага складу новымі кадрамі вылучэнцаў. Адначасова даручыць Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту ў бліжэйшы час заняцца вывучэньнем і распрацоўкай пытаньняў аб устанаўленьні форм сталай сувязі рабочых прадпрыемстваў з савецкімі ўстановамі і сыстэматычнага ўдзелу іх у справе палепшаньня работы гэтых устаноў.

8. Выходзячы з таго, што падрыхтоўка намечаных да вылучэньня рабочых і сялян дагэтуль ня была дастаткова добра наладжана, Цэнтральны Выканаўчы Камітэт прапануе органам асьветы і органам працы разам з прафарганізацыямі ўжыць усе захады да правядзеньня падрыхтоўкі кадраў у

поўнай адпаведнасьці з тымі запатрабаваньнямі, якія паўстаюць перад дзяржаўным апаратам у справе сацыялістычнага будаўніцтва.

9. Цэнтральны Выканаўчы Камітэт Беларускай ССР даручае Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту, на падставе гэтае пастановы і матар'ялаў Народнага Камісарыяту Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі, распрацаваць канкрэтныя мерапрыемствы і паказаньні ўсім выканаўчым камітэтам, саветам і цэнтральным установам аб практычным ажыцьцяўленьні задач праверкі і чысткі апарату.

10. Пасьпяховае праводзеньне такой вялікай працы, як праверка і палепшаньне апарату і ачышчэньне яго ад шкодных элемэнтаў, можа быць забясьпечана толькі пры ўдзеле шырокіх мас рабочых, работніц, працоўных мас вёскі і пры іх актыўнай дапамозе. Ухваляючы тыя мерапрыемствы, якія ў гэтым напрамку прымаюцца Народным Камісарыятам Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі, Цэнтральны Выканаўчы Камітэт зварочваецца з заклікам да ўсіх рабочых і працоўных гораду і вёскі актыўна садзейнічаць і дапамагаць органам Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі, выканаўчым камітэтам і саветам у справе найлепшага праводзеньня праверкі і чысткі апарату.

Старшыня Цэнтральнага Выканаўчага
Камітэту БССР **А. Чарвякоў.**

Сакратар Цэнтральнага Выканаўчага
Камітэту БССР **А. Хацкевіч.**

26-га лістапада 1929 г.
г. Менск.

VII.

## Аб рэарганізацыі Віцебскай акругі ў вопытна-паказальную.

Заслухаўшы даклад аб рэарганізацыі Віцебскай акругі ў вопытна-паказальную, Цэнтральны Выканаўчы Камітэт Беларускай ССР пастанаўляе:

1. Ажыцьцяўленьне задач, якія вынікаюць з хуткага тэмпу індустрыялізацыі, сацыялістычнай перабудовы сельскай гаспадаркі, пасьпяховага выкананьня пяцігадовага пляну разьвіцьця народнай гаспадаркі і культуры, патрабуе ад усіх органаў Савецкай улады новых форм работы, больш хуткіх яе тэмпаў, клясавай выразнасьці і гібкасьці апарату, набліжэньня яго да насельніцтва, рашучай барацьбы з усякага роду бюракратычнымі скажэньнямі і большага ўцягненьня ў савецкі апарат шырокіх мас працоўных (рабочых, батракоў і бедняцка-серадняцкіх мас вёскі).

Выходзячы, у зьвязку з гэтым, з неабходнасьці рашучай і сьмелай перабудовы сыстэмы кіраўніцтва, дэцэнтралізацыі апэрацыйных функцый і павялічэньня адказнасьці выканаўцаў за даручаную ім работу, Цэнтральны Выканаўчы Камітэт ухваляе мерапрыемствы Ўраду па рэарганізацыі сыстэмы кіраўніцтва Віцебскай акругі.

2. Надаючы вялікае значэньне дасканаламу і пасьпяховаму ажыцьцяўленьню гэтага вопыту і маючы на ўвазе, што тэмп работы па рэарганізацыі Віцебскай акругі нездавальняючы, Цэнтральны Выканаўчы Камітэт Беларускай ССР прапануе ўсім органам савецкай улады, асабліва ўсім цэнтральным установам БССР аказваць усялякую дапамогу справе рэарганізацыі Віцебскай акругі і зьвярнуць асаблівую ўвагу на палепшаньне работы ў акрузе, уважліва вывучаючы вопыт работы савецкага апарату.

3. Даручыць Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Беларускай ССР распрацаваць шэраг дадатковых мерапрыемстваў па масаваму вылучэньню ў савецкі апарат Віцебскай акругі рабочых, батракоў, сялян-беднякоў і сераднякоў, а таксама ўзмацніць гэтую акругу працаўнікамі цэнтральных устаноў, забясьпечыўшы адначасова правядзеньне

мерапрыемстваў па падрыхтоўцы і дачы адпаведнай квалiфiкацыi тым работнiкам, якiя будуць вылучаны на работу ў Вiцебскую акругу.

4. Адзначаючы, што ўцягненьне шырокiх мас рабочых, батракоў i бедняцка-серадняцкага сялянства ў справу рэарганiзацыi акругi зьяўляецца гарантыяй пасьпяховасьцi гэтае работы, прапанаваць Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камiтэту i Вiцебскаму Акруговаму Выканаўчаму Камiтэту шырока асьвятляць сярод працоўных мэты, задачы i прынцыпы рэарганiзацыi, уздымаючы творчую iнiцыятыву мас па далейшаму палепшаньню сыстэмы i мэтадаў працы савецкага апарату.

5. Прызнаць нездавальняючым удзел цэнтральных устаноў i народных камiсарыятаў у справе рэарганiзацыi Вiцебскай акругi ў вопытна-паказальную. Запрапанаваць усiм народным камiсарыятам i цэнтральным установам Беларускай ССР, разам з Народным Камiсарыятам Рабоча-Сялянскай Iнспэкцыi, узмацнiць жывы iнструктаж па сваiх галiнах работы i весьцi далейшую распрацоўку i канкрэтызацыю мэтадаў i сыстэмы работы рэарганiзаванага апарату.

6. Прызнаючы, што рэарганiзацыя Вiцебскае акругi зьяўляецца значным крокам наперад у справе спрашчэньня сыстэмы кiраўнiцтва i рацыяналiзацыi апарату, Цэнтральны Выканаўчы Камiтэт Беларускай ССР, аднак, ня лiчыць гэтым вычарпанай справу рацыяналiзацыi дзяржаўнага апарату i прапануе Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камiтэту i Савету Народных Камiсараў Беларускай ССР праводзiць у далейшым нясупынную работу па спрашчэньнi сыстэмы кiраўнiцтва, шляхам далейшай дэцэнтралiзацыi апэрацыйных функцый, зьнiшчэньня паралелiзму, спрашчэньня структуры кiраўнiчага апарату i самой справы кiраўнiцтва.

Старшыня Цэнтральнага Выканаўчага
Камiтэту БССР **А. Чарвякоў.**

Сакратар Цэнтральнага Выканаўчага
Камiтэту БССР **А. Хацкевiч.**

26-га лiстапада 1929 г.
г. Менск.

## VIII.

## Аб утварэньні Народнага Камісарыяту Земляробства Саюзу ССР.

Заслухаўшы даклад Народнага Камісара Земляробства БССР тав. Рачыцкага аб неабходнасьці ўтварэньня Народнага Камісарыяту Земляробства Саюзу ССР, Цэнтральны Выканаўчы Камітэт Беларускай ССР адзначае:

1. Пры вялікай дапамозе Саюзу Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік, Беларуская ССР ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі, у тым ліку і ў сельскай, дасягнула буйнейшых посьпехаў.

Пройдзены этап гаспадарчага будаўніцтва вырашыў пытаньне аднаўленьня і ўздыму, галоўным чынам, індывідуальных (бедняцка-серадняцкіх) сялянскіх гаспадарак.

2. Далейшы ўзрост сельска-гаспадарчай вытворчасьці, а разам з гэтым таксама ўзрост добрабыту шырокіх колаў працоўных гораду і вёскі, немагчымы без сацыялістычнай рэканструкцыі сельска-гаспадарчай вытворчасьці, без рашучага выкарчоўваньня карэньняў капіталізму.

3. Шпаркі тэмп разгарнуўшайся рэканструкцыі сельскай гаспадаркі (саўгасы, калгасы, машына-трактарныя станцыі) на абшарах усяго Савецкага Саюзу, а таксама і ў Беларусі, патрабуе зьмены ў кіраўніцтве сельска-гаспадарчай вытворчасьці на базе:

а) больш шчыльнай сувязі сельска-гаспадарчай вытворчасьці з сацыялістычнай прамысловасьцю на падставах яе спэцыялізацыі;

б) паскарэньня падрыхтоўкі кадраў па перабудове сельскай гаспадаркі;

в) аб'яднаньня і далейшага разгортваньня навукова-дасьледчай справы і інш.

Таму Цэнтральны Выканаўчы Камітэт Беларускай ССР, лічачы своечасовай арганізацыю кіраўніцтва справай сельскай гаспадаркі ў агульнасаюзным маштабе, выказваецца за ства-

рэньне аб'яднанага Народнага Камісарыяту Земляробства Саюзу ССР і даручае Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР увайсьці з адпаведным хадайніцтвам па гэтым пытаньні ў Цэнтральны Выканаўчы Камітэт Саюзу ССР.

Старшыня Цэнтральнага Выканаўчага
Камітэту БССР **А. Чарвякоў.**

Сакратар Цэнтральнага Выканаўчага
Камітэту БССР **А. Хацкевіч.**

23-га лістапада 1929 г.
г. Менск.

IX.

## Пра Першую Ўсебеларускую выстаўку сельскай гаспадаркі і прамысловасьці.

Заслухаўшы інформацыю аб Першай Ўсебеларускай выстаўцы сельскай гаспадаркі і прамысловасьці, Цэнтральны Выканаўчы Камітэт Беларускай ССР пастанаўляе:

1. Першая Ўсебеларуская выстаўка сельскай гаспадаркі і прамысловасьці павінна адлюстраваць барацьбу рабочых, бедняцка-серадняцкіх мас сялянства і наогул працоўных усіх нацыянальнасьцяй Савецкай Беларусі, пад кіраўніцтвам Камуністычнай Партыі (бальшавікоў), за сваё вызваленьне ад улады капіталістых, а таксама павінна паказаць дасягненьні Савецкай Беларусі ў справе сацыялістычнага будаўніцтва.

Выстаўка павінна паказаць усім працоўным, што вызваленьне Беларусі ад абшарнікаў і капіталістых, утварэньне Савецкай улады, улады дыктатуры пролетарыяту, што будуецца на падставе кіраваньня дзяржавай рабочай клясай, цеснай сувязі рабочае клясы з бяднейшым сялянствам і ў саюзе з серадняком, і дапамога з боку Савецкага Саюзу забясьпечылі магчымасьць шырокага разгортваньня сацыялістычнага, гаспадарчага і культурнага разьвіцьця краіны.

Выстаўка павінна наглядна паказаць усім працоўным Савецкай Беларусі матар'яльныя магчымасьці нашае краіны дзеля пабудовы сацыялізму і паказаць, што толькі на базе індустрыялізацыі краіны, праз сацыялістычную перабудову сельскай гаспадаркі, шляхам яе калектывізацыі Савецкая Беларусь зможа вырашыць задачу перамогі сацыялізму. Вось з гэтае прычыны, Цэнтральны Выканаўчы Камітэт надае вялікае палітычнае і эканамічнае значэньне пасьпяховаму правядзеньню выстаўкі, з уцягненьнем у яе арганізацыю самых шырокіх мас працоўных Беларусі.

2. Цэнтральны Выканаўчы Камітэт адзначае, што ў падрыхтоўцы тэрыторыі да выстаўкі і будаўніцтве павільёнаў праароблена значная праца. Але побач з гэтым, ня гледзячы на тое, што да моманту адчыненьня выстаўкі застаўся ка-

роткі час, як з боку цэнтральных установ і арганізацый, так асабліва з боку акруговых і раённых, няма дастатковай увагі да падрыхтоўкі выстаўкі экспанатаў, канцэнтрацыі вакол выстаўкі ўвагі шырокіх рабочых мас гораду, бедняцка-серадняцкіх мас вёскі, калгасьнікаў, а таксама навуковых сіл, асабліва спэцыялістых па сельскай гаспадарцы і прамысловасьці.

3. Каб зьнішчыць гэтыя зьявішчы, Цэнтральны Выканаўчы Камітэт прапануе ўсім цэнтральным установам і арганізацыям, а таксама акруговым і раённым выканаўчым камітэтам рашуча узмацніць працу па мабілізацыі вакол выстаўкі і падрыхтоўкі экспанатаў шырокай савецкай грамадзкасьці.

4. Цэнтральны Выканаўчы Камітэт Беларускай ССР заклікае ўсіх рабочых, бедняцка-серадняцкія масы сялянства, навуковых працаўнікоў і спэцыялістых прыняць самы актыўны ўдзел у падрыхтоўцы і арганізацыі Першай Усебеларускай выстаўкі сельскай гаспадаркі і прамысловасьці.

5. Адчыненьне выстаўкі прыстасаваць да Дзесяцігодзьдзя вызваленьня Беларусі ад белапалякаў.

Старшыня Цэнтральнага Выканаўчага
Камітэту БССР **А. Чарвякоў.**

Сакратар Цэнтральнага Выканаўчага
Камітэту БССР **А. Хацкевіч.**

25-га лістапада 1929 г.,
г. Менск.

X.

## Камандуючаму Далёка-Ўсходняй Асобнай Арміі тав. Блюхеру.

Другая Сэсія ЦВК БССР горача вітае байцоў і каманднапалітычны склад Далёка-Ўсходняй Арміі ад імя рабочых і сялян Савецкай Беларусі.

Працоўныя Савецкай Беларусі добра разумеюць, што ўсялякая небясьпека на Ўсходзе Савецкага Саюзу шчыльна зьвязана з небясьпекай на Захадзе і таму пільна сочаць за падзеямі на Далёкім Усходзе дзеля таго, каб у кожную хвіліну дапамагчы чырвоным байцам Далёка-Ўсходняй Чырвонай Арміі.

Байцы Далёка-Ўсходняй Арміі! Моцна стойце на варце межаў Савецкага Саюзу і будзьце ўпэўнены, што кожны з працоўных Савецкай Беларусі, як і ўсяго Савецкага Саюзу, заўжды гатовы на дапамогу Вам.

Няхай жыве Савецкі Саюз!

Няхай жыве Чырвоная Армія!

Старшыня Цэнтральнага Выканаўчага
Камітэту БССР **А. Чарвякоў.**

Сакратар Цэнтральнага Выканаўчага
Камітэту БССР **А. Хацкевіч.**

24-га лістапада 1929 г.,
г. Менск.

XI.

## Аб выбраньні Народным Камісарам Унутраных Спраў БССР тав. Піляра, Р. А.

Цэнтральны Выканаўчы Камітэт Беларускай ССР пастанаўляе:

Народным Камісарам Унутраных Спраў Беларускай ССР выбраць тав. Піляра, Рамана Александравіча.

Старшыня Цэнтральнага Выканаўчага
Камітэту БССР **А. Чарвякоў.**

Сакратар Цэнтральнага Выканаўчага
Камітэту БССР **А. Хацкевіч.**

26-га лістапада 1929 г.,
г. Менск.

XII.

## Пра зацьверджаньне важнейшых пастаноў Прэзыдыуму ЦВК БССР, прынятых у пэрыяд паміж III Сэсіяй ЦВК БССР VIII скліканьня і II Сэсіяй ЦВК БССР IX скліканьня.

Цэнтральны Выканаўчы Камітэт Беларускай ССР пастанаўляе: зацьвердзіць, паводле арт. 38 Канстытуцыі БССР, наступныя пастановы Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту, прынятыя ў пэрыяд паміж III Сэсіяй ЦВК БССР VIII скліканьня і II Сэсіяй ЦВК БССР IX скліканьня:

1. За 1-е кастрычніка 1928 г. «пра зьмену артыкулу 3 Палажэньня аб сельскіх саветах і арт. 3 Палажэньня аб местачковых саветах» (З. З. БССР за 1928 г., № 28, арт. 272).

2. За 1-е кастрычніка 1928 г. «Палажэньне пра Народны Камісарыят Працы БССР» і «Пра зацьверджаньне Палажэньня пра Народны Камісарыят Працы БССР» («Збор З. за 1928 г., № 28, арт. арт. 274 і 275).

3. За 6-е кастрычніка 1928 г. «Пра зьмену арт. арт. 28 і 29 Зямельнага Кодэксу БССР» (Збор З. за 1928 г., № 31, арт. 294).

4. За 27 кастрычніка 1928 г. «пра пашырэньне праў раённых рэвізійных камісій і рэвізійных камісій пры сельскіх і местачковых саветах» (Збор З. за 1928 г., № 32, арт. 299).

5. За 3-е лістапада 1928 г. «Пра зьмену пастановы ЦВК і СНК БССР «Пра самаабкладаньне насельніцтва» (Збор З. за 1928 г., № 34, арт. 317).

6. За 17-е лістапада 1928 г. «Палажэньне пра Народны Камісарыят Гандлю БССР» і «Пра зацьверджаньне Палажэньня пра Народны Камісарыят Гандлю БССР» (Збор Зак. за 1928 г., № 34, арт. арт. 318 і 319).

7. За 17-е лістапада 1928 г. «Палажэньне пра Народны Камісарыят Сацыяльнага Забясьпечаньня» і «Пра зацьверджаньне Палажэньня пра Народны Камісарыят Сацыяльнага Забясьпечаньня» (Збор Зак. за 1928 г., № 35, арт. арт. 322 і 323).

8. За 17-е лістапада 1928 г. «Пра зьмену арт. 65 Ветэрынарнага Статуту БССР» (Збор Зак. за 1928 г., № 34, арт. 320).

9. За 22 сьнежня 1928 г. «Палажэньне пра гарадзкія саветы» і «Пра зацьверджаньне Палажэньня пра гарадзкія саветы» (Збор Зак. за 1928 г., № 38, арт. арт. 361 і 362).

10. За 29 сьнежня 1928 г. «Пра ўстанаўленьне норм прадстаўніцтва ў гарадзкія саветы» (Збор З. за 1928 г., № 39, арт. 380).

11. За 29 сьнежня 1928 г. «Пра зьмену арт. 360 Грамадзянскага Кодэксу БССР» (Збор З. за 1928 г., № 38, арт. 366).

12. За 29 сьнежня 1928 г. «Пра зьмену арт. арт. 69 і 77 Палажэньня аб судабудаўніцтве БССР» (Збор Зак. за 1928 г., № 38, арт. 371).

13. За 29 сьнежня 1928 г. «Пра скасаваньне арт. 64 пастановы ЦВК і СНК БССР пра рэарганізацыю і спрашчэньне савецкага апарату і пра пашырэньне праў мясцовае ўлады» (Збор З. за 1928 г., № 38, арт. 373).

14. За 29 сьнежня 1928 г. «Пра зьмены ў Палажэньні пра мясцовыя фінансы БССР» (Збор Зак. за 1928 г., № 38, арт. 368).

15. За 29 сьнежня 1928 г. «Пра дапаўненьне Грамадзянскага Кодэксу арт. арт. 71-а, 80-а і 363-а» (Збор З. за 1928 г., № 38, арт. 370).

16. За 26 студзеня 1929 г. «Пра зьмену разьдзелу Грамадзянскага Кодэксу БССР пра спадчыннае права» (Збор Зак. за 1929 г., № 2 арт. 7).

17. За 2 лютага 1929 г. «Пра органы кіраваньня дарожнаю і аўтамабільнаю справаю БССР» (Збор Зак. за 1929 г., № 3, арт. 14).

18. За 2 лютага 1929 г. «Палажэньне пра Галоўную Ўправу шосавых, грунтавых дарог і аўтамабільнага транспарту БССР» (Збор Зак. за 1929 г., № 3, арт. 15).

19. За 2 лютага 1929 г. «Пра зьмену і дапаўненьне Грамадзянскага Працэсуальнага Кодэксу БССР» (Збор Зак. за 1929 г., № 4, арт. 20).

20. За 23 лютага 1929 г. «Палажэньне пра Члены Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР» і «Пра зацьверджаньне Палажэньня пра Члены Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР» (Збор Зак. за 1929 г., № 9, арт. арт. 40 і 41).

21. За 23 лютага 1929 г. «Палажэньне пра Вышэйшы Савет Народнае Гаспадаркі БССР» і «Пра зацьверджаньне Палажэньня пра Вышэйшы Савет Народнае Гаспадаркі» (Збор Зак. 1929 г., № 9, арт. арт. 44 і 45).

22. За 23 лютага 1929 г. «Пра зьмену пастановы ЦВК і СНК БССР за 17 мая 1928 г. «Пра парадак выданьня акру-

говымі і раённымі выканаўчымі камітэтамі і гарадзкімі саветамі абавязковых пастаноў і пра накладаньне адміністрацыйных пакараньняў» (Збор Зак. за 1929 г., № 11, арт. 59).

23. За 2 сакавіка 1929 г. «Палажэньне пра Народны Камісарыят Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі» і «Пра зацьверджаньне Палажэньня аб Народным Камісарыяце Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі БССР» (Збор Зак. за 1929 г., № 9, арт. арт. 46 і 47).

24. За 2 сакавіка 1929 г. «Пра зьмену артыкулаў 11 і 13 Папраўна-Працоўнага Кодэксу БССР» (Збор Зак. за 1929 г., № 9, арт. 50).

25. За 2 сакавіка 1929 г. «Пра дапаўненьне арт. 18 Палажэньня пра гарадзкія саветы новым абзацам» (Збор Зак. за 1929 г., № 8, арт. 35).

26. За 2 сакавіка 1929 г. «Пра склад акруговых і раённых выканаўчых камітэтаў і іх прэзыдыумаў» (Збор Зак. за 1929 г., № 8, арт. 34).

27. За 2 сакавіка 1929 г. «Пра падпарадкаваньне Слуцкага, Рэчыцкага і Клімавіцкага гарадзкіх саветаў адпаведным раённым выканаўчым камітэтам» (Збор Зак. за 1929 г. Адзел II., № 4, арт. 18).

28. За 9 сакавіка 1929 г. «Пра дапаўненьне Крымінальнага Кодэксу арт. 132[1]» (Збор Зак. за 1929 г., № 10, арт. 52).

29. За 9 сакавіка 1929 г. «Пра зьмену Палажэньня пра мясцовыя фінансы БССР» (Збор Зак. за 1929 г., № 14, арт. 70).

30. За 6 красавіка 1929 г. «Пра падпарадкаваньне Барысаўскага гарадзкога савету Барысаўскаму раённаму выканаўчаму камітэту» (Збор Зак. за 1929 г. Аддзел II, № 9, арт. 60).

31. За 13 красавіка 1929 г. «Пра дапаўненьне Грамадзянскага Працэсуальнага Кодэксу БССР арт. 316 «б» (Збор Зак. за 1929 г. №14, арт. 71).

32. За 13 красавіка 1929 г. «Пра зьмену ў Крымінальна-Працэсуальным Кодэксе» (Збор Зак. за 1929 г., № 14, арт. 72).

33. За 13 красавіка 1929 г.«Пра дапаўненьне Крымінальнага Кодэксу БССР арт. 80[1], 144[1], і п. «б», арт. 145» (Збор Зак. за 1929 г., № 14, арт., 74).

34. За 27 красавіка 1929 г. «Пра павялічэньне складу прэзыдыумаў сельскіх саветаў» (Збор Зак. за 1929 г., № 16, арт. 85).

35. За 27 красавіка 1929 г. «Пра дапаўненьне Палажэньня аб парадку дысцыплінарнай адказнасьці» (Збор З. за 1929 г., № 16, арт. 86).

36. За 27 красавіка 1929 г. «Пра зьмену Палажэньня пра мясцовыя фінансы БССР» (Збор З. за 1929 г., № 15, арт. 78).

37. За 27 красавіка 1929 г. «Аб працоўнай дарожнай павіннасьці» (Збор З. за 1929 г., № 15, арт. 79).

38. За 8 мая 1929 г. «Палажэньне пра Народны Камісарыят Асьветы БССР» і «Пра зацьверджаньне Палажэньня пра Народны Камісарыят Асьветы БССР» (Збор Зак. за 1929 г., № 18, арт. 104).

39. За 8 мая 1929 г. «Пра зьмену п. «б», арт. 26 Палажэньня пра мясцовыя фінансы БССР» (Збор З. за 1929 г., № 18, арт. 107).

40. За 8 мая 1929 г. «Пра дапаўненьне арт. 336-б» Грамадзянскага Працэсуальнага Кодэксу». Збор З. за 1929 г., № 18, арт. 105).

41. За 18 мая 1929 г. «Пра зьмену і дапаўненьне Крымінальнага Кодэксу БССР» (Збор З. за 1929 г., № 18, арт. 109).

42. За 1 чэрвеня 1929 г. «Пра зьмену разьдзелу 22 Папраўна-Працоўнага Кодэксу БССР «аб прымусовых работах бяз трыманьня пад вартаю» (Збор З. за 1929 г., № 21, арт. 118).

43. За 15 чэрвеня 1929 г. «Палажэньне пра Народны Камісарыят Юстыцыі БССР» і «Пра зацьверджаньне Палажэньня пра Народны Камісарыят Юстыцыі БССР» (Збор З. за 1929 г., № 21, арт. арт. 120 і 121).

44. За 15 чэрвеня 1929 г. «Пра зьмену арт. 103 Грамадзянскага Кодэксу БССР арт. арт. 103, 103-а і 103-б і пра дапаўненьне гэтага Кодэксу арт. 103-в і 103-г.» (Збор З. за 1929 г., № 21, арт. 119).

45. За 22 чэрвеня 1929 г. «Пра зьмены ў Палажэньні пра мясцовыя фінансы БССР» (Збор Зак. за 1929 г., № 25, арт. 136).

46. За 22 чэрвеня 1929 г. «Пра дапаўненьне Крымінальнага Кодэксу БССР арт. 93[1]» (Збор З. за 1929 г., № 25, арт. 137).

47. За 22 чэрвеня 1929 г. «Пра зьмену арт. 69 Грамадзянскага Кодэксу БССР і пра дапаўненьне гэтага Кодэксу арт. 69-а» (Збор З. за 1929 г., № 25, арт. 140).

48. За 22 чэрвеня 1929 г. «Пра зьмену арт. арт. 92 і 187 Грамадзянскага Кодэксу БССР» (Збор З. за 1929 г., № 25, арт. 139).

49. За 22 чэрвеня 1929 г. «Пра зьмену арт. 116 Грамадзянскага Кодэксу БССР і пра скасаваньне ўвагі 1 і ўвагі 2-й да гэтага артыкулу» (Збор З. за 1929 г., № 25, арт. 138).

50. За 29 чэрвеня 1929 г. «Пра зьмену арт. арт. 24 і 31 Кодэксу законаў аб шлюбе, сям'і і апецы і пра дапаўненьне гэтага Кодэксу арт. арт. 64-а, 69-а, 69-б і 71-а» (Збор З. за 1929 г., № 25, арт. 143).

51. За 29 чэрвеня 1929 г. «Пра зьмену арт. 311 Грамадзянскага Працэсуальнага Кодэксу БССР» (Збор З. за 1929 г., № 26, арт. 147).

52. За 6 ліпеня 1929 г. «Пра дапаўненьне Палажэньня аб судабудаўніцтве пунктам «е» да арт. 3 і артыкулу 66-а і Па-

лажэньня пра Арбітражную Камісію пры Эканамічнай Нарадзе БССР пунктам «в» да арт. 3» (Збор З. за 1929 г., № 26, арт. 151).

53. За 6 ліпеня 1929 г. «Пра зьмену і дапаўненьне Ветэрынарнага Статуту БССР» (Збор З. за 1929 г., № 26, арт. 150).

54. За 13 ліпеня 1929 г. «Пра зьмену арт. арт. 170 і 171 Крымінальнага Кодэксу БССР» (Збор З. за 1929 г., № 26, арт. 153).

55. За 20 ліпеня 1929 г. «Пра зьмену артыкулу 27 Палажэньня пра мясцовыя фінансы БССР» (Збор З. за 1929 г., № 27, арт. 155).

56. За 20 ліпеня 1929 г. «Пра зьмену пастановы ЦВК і СНК БССР за 17 мая 1928 г. «пра парадак выданьня акруговымі і раённымі выканаўчымі камітэтамі і гарадзкімі саветамі абавязковых пастаноў і пра накладаньне адміністрацыйных пакараньняў за іх парушэньне» (Збор З. за 1929 г., № 26, арт 154).

57. За 27 ліпеня 1929 г. «Кодэкс аб Працы БССР» (Збор З. за 1929 г., № 33, арт. 191).

58. За 27 ліпеня 1929 г. «Пра арганізацыю вопытна-паказальнай акругі» (Збор З. за 1929 г., № 28, арт. 166).

59. За 10 жніўня 1929 г. «Пра выключэньне з Грамадзянскага Працэсуальнага Кодэксу арт. арт. 233—236, пра дапаўненьне гэтага Кодэксу арт. арт. 21-а, 178-а і 266-а і пра зьмену арт. арт. 22—24, 187, 188, 194, 195, разьдзелу XXVII, п. «в», артыкулу 269 і артыкулаў 291 і 349» (Збор З. за 1929 г., № 29, арт. 173).

60. За 17 жніўня 1929 г. «Пра дапаўненьне п. «$в^1$» арт. 7 «Палажэньня пра Народны Камісарыят Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі БССР» (Збор З. за 1929 г., № 30, арт. 178).

61. За 17 жніўня 1929 г. «Пра дапаўненьне Крымінальнага Кодэксу арт. $106^1$» (Збор З. за 1929 г., № 30, арт. 177).

62. За 17 жніўня 1929 г. «Пра дапаўненьне Грамадзянскага Працэсуальнага Кодэксу арт. 316-в» (Збор З. за 1929 г., № 30, арт. 176).

63. За 17 жніўня 1929 г. «Пра пашырэньне правоў мясцовых саветаў у галіне дапамогі выкананьню агульна-дзяржаўных заданьняў і плянаў» (Збор З. за 1929 г., № 30, арт. 179).

64. За 31 жніўня 1929 г. «Пра зьмену дадатку № 2 да Палажэньня пра мясцовыя фінансы БССР—раскладу гранічных месячных ставак мэтавага кватэрнага падатку на патрэбы будаўніцтва рабочых жылішч» (Збор З. за 1929 г., № 31, арт. 183).

65. За 31 жніўня 1929 г. «Пра аслабаненьне тав. Балыцкага А. В. ад абавязкаў Народнага Камісара Асьветы БССР і аб назначэньні тав. Платуна А. М. Народным Камісарам Асьветы БССР» (Збор З. за 1929 г., Аддзел II, № 20, арт. 137).

66. За 17 верасьня 1929 г. «Пра рэарганізацыю і спрашчэньне савецкага апарату і пашырэньне праў мясцовых органаў улады» (Збор З. за 1929 г., № 32, арт. 187).

67. За 17 верасьня 1929 г. «Пра аслабаненьне т. Карпа С. Б. ад абавязкаў Намесьніка Старшыні Савету Народных Камісараў БССР і Старшыні Вышэйшага Савету Народнае Гаспадаркі БССР і аб назначэньні тав. Грысевіча Р. П. Намесьнікам Старшыні Савету Народных Камісараў БССР і Старшынёю Вышэйшага Савету Народнае Гаспадаркі БССР» (Збор З. за 1929 г., Аддзел II, № 20, арт. 138).

68. За 17 верасьня 1929 г. «Пра самаабкладаньне насельніцтва» (Збор З. за 1929 г., № 31, арт. 184).

69. За 28 верасьня 1929 г. «Пра зьмену арт. 98 Грамадзянскага Працэсуальнага Кодэксу БССР» («Савецкая Беларусь» за 6 кастрычніка 1929 г., № 229).

70. За 29 верасьня 1929 г. «Пра дапаўненьне пастановы ЦВК і СНК БССР за 22 чэрвеня 1929 г. артыкулам $93^2$ Крымінальнага Кодэксу БССР» («Савецкая Беларусь» за 5 кастрычніка 1929 г., № 228).

71. За 28 верасьня 1929 г. «Пра дапаўненьне артыкулу 36 Палажэньня пра мясцовыя фінансы БССР» («Савецкая Беларусь» за 6 кастрычніка 1929 г., № 228).

72. За 28 верасьня 1929 г. «Пра зьмену абзаца 6 арт. $70^1$ Палажэньня пра мясцовыя фінансы БССР» («Савецкая Беларусь» за 5 кастрычніка 1929 г., № 228).

73. За 28 верасьня 1929 г. «Пра зьмену арт. 26 Грамадзянскага Працэсуальнага Кодэксу» («Савецкая Беларусь» за 5 кастрычніка 1929 г., № 228).

74. За 5 кастрычніка 1929 г. «Пра зьмену арт. арт. 36 і 68 і дапаўненьне арт. 68-а Палажэньня аб судабудаўніцтве БССР» («Савецкая Беларусь» за 10 кастрычніка 1929 г., № 232).

75. За 5 кастрычніка 1929 г. «Пра скасаваньне арт. 97 Зямельнага Кодэксу» («Савецкая Беларусь» за 10 кастрычніка 1929 г., № 232).

76. За 12 кастрычніка 1929 г. «Пра рэарганізацыю акругова-раённай сыстэмы кіраўніцтва Віцебскай вопытна-паказальнай акругі» («Савецкая Беларусь» за 17 кастрычніка 1929 г., № 238).

77. За 10 кастрычніка 1929 г. «Пра аслабаненьне тав. Масальскага І. Я. ад абавязкаў Народнага Камісара Сацыяльнага Забесьпячэньня БССР» («Савецкая Беларусь» за 11 кастрычніка 1929 г., № 233).

78. За 27 кастрычніка 1929 г. «Пра дапаўненьне Крымінальнага Кодэксу БССР арт. $108^3$» («Савецкая Беларусь» за 5 лістапада 1929 г., № 254).

79. За 27 кастрычніка 1929 г. «Пра зьмену арт. 43 Грамадзянскага Працэсуальнага Кодэксу БССР» («Савецкая Беларусь» за 5 лістапада 1929 г., № 254).

80. За 17 лістапада 1929 г. «Пра скасаваньне пункту «ц», арт. 3 Палажэньня аб Народным Камісарыяце Земляробства БССР». («Савецкая Беларусь» за 28 лістапада 1929 г., № 270).

81. За 17 лістапада 1929 г. «Пра зьмену арт. арт. 72, 73 і 76 Водна-Мэліарацыйнага Кодэксу БССР». («Савецкая Беларусь» за 23 лістапада 1929 г., № 266).

82. За 17 лістапада 1929 г. «Пра дапаўненьне пункту «$л^1$» арт. 3 Палажэньня пра Народны Камісарыят Гандлю БССР» («Савецкая Беларусь» за 3 сьнежня 1929 г., № 275).

83. За 17 лістапада 1929 г. «Пра зьмену арт. 93 Крымінальнага Кодэксу БССР і скасаваньне арт. арт. $93^1$ і $93^2$ гэтага Кодэксу» (Збор З. за 1929 г., № 41, арт. 242).

84. За 17 лістапада 1929 г. «Пра зьмену арт. арт. 80, 332, увагі да арт. 333 і артыкулу 351 Грамадзянскага Кодэксу і пра дапаўненьне гэтага Кодэксу артыкуламі 19-а, 210-а» (Збор З. за 1929 г., № 41, п. 243).

85. За 18 лістапада 1929 г. «Аб зьняцьці тав. Прафэрансава Л. Л. з пасады кіраўніка Цэнтральнай Статыстычнай Управы БССР» («Савецкая Беларус«» за 19 лістапада 1929 г., № 263).

86. За 20 лістапада 1929 г. «Аб выключэньні тт. Прышчэпава З. Х. і Масальскага І. Я. са складу Цэнтральнага Выканаўчаг Кмітэту БССР» (прат. Прэзыдыуму ЦВК БССР, № 23).

Старшыня Цэнтральнага Выканаўчага
Камітэту БССР **А. Чарвякоў.**

Сакратар Цэнтральнага Выканаўчага
Камітэту БССР **А. Хацкевіч.**

26 лістапада 1929 г.
г. Менск.

V

## ЗЬМЕСТ

